Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

24 мая 1997 года

СУБОТА

№ 23

Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### «Справядлівасць» перамагла?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** *Па рашэнню* Брэсцкага аблвыканкама ў ліку іншых камерцыйных фірмаў, якія не прайшлі перарэгістрацыю, прыпынена дзейнасць гандлёва-прамысловай фірмы „Івацэвічы". Яе дырэктар, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Уладзімір Кудзінаў ужо тры месяцы з лішкам знаходзіцца пад арыштам у адным са следчых ізалятараў г. Мінска. Як стала вядома з кампетэнтных крыніцаў, следства да гэтай пары не можа дакументальна пацвердзіць якую-небудзь віну У. Кудзінава. Абвінавачанне ў дачы хабару мытніку (што паслужыла прычынай арышту) У. Кудзінаў катэгарычна адмаўляе. Тым не менш, прадпрымальнік і дэпутат утрымліваецца за кратамі. Лічыцца, відавочна, што так нашаму грамадству будзе лепш.

Як стала „лепш" у Івацэвічах пасля разгрому фірмы „Івацэвічы" і арышту яе дырэктара, сведчаць факты. Фірма ўжо не мае магазінаў, дзе ўсе тавары прадаваліся на 10–20% ніжэй, чым у магазінах Івацэвіцкага райспажыўсаюза. Фірма не пастаўляе ў магазіны свежае мяса, танныя паўфабрыкаты, каўбасы і іншыя мясныя вырабы. Затое фірма не перашкаджае райспажыўсаюзу – ад такога канкурэнта, нарэшце, збавіліся.

І яшчэ адзін, нязначны на фоне івацэвіцкага беспрацоўя нюанс. Людзі, якія працавалі ў фірме „Івацэвічы", былі, як вядома, звольнены адтуль па скарачэнню кадраў. Толькі нямногім з 350 чалавек удалося знайсці работу. Дзяржчыноўнікі падтрымліваюць нейкае негалоснае вета ў гэтым пытанні і, здараецца, адкрыта гавораць прэтэндэнту на рабочае месца:

– Працаваў у Кудзінава? Ну, дык няхай ён і забяспечвае цябе работай!

Справядлівасць узяла верх?! „Кулак" Ул. Кудзінаў раскулачаны і ў ізалятар пасаджаны. Што далей? Шкада, больш кулакоў у Івацэвічах няма... А мо знойдзем?

### Каго «отвалят» першым?

**БАРАНАВІЧЫ**, як правінцыяльнае месца, не вельмі багатыя на ўласныя выданні. Хапае попыту і на разнастайную цэнтральную прэсу Беларусі і Расіі. Ды і мясцовая раёнка, змяніўшая шматзначную назву „Знамя коммунизма" на местачковую „Наш край", нікому не хоча саступаць сваіх накладаў. Як прывіды гістарычнага часу з'явіліся і зніклі камерцыйныя „Шанс", газета мясцовай філіі ТБМ імя Ф. Скарыны „Баранавіцкае слова", гаспадарчая газета „Гаспадар". Працоўна-баявым лістком дыхае на ладан шматтыражка „Текстильщик". Новаўтвораныя выданні – „Шаг" і „Intex-press", „окопавшиеся" на інтэлектуальна-меркантыльным і тэлевізійным узроўні, упарта трымаюцца на месцы.

Вось толькі моладзь засталася па-за ўвагай газетчыкаў. І вось, як снег на галаву, на навучальныя ўстановы і інтэрнаты горада пасыпаліся нумары газеты „Отвали" і адразу прыліплі да маладых чытачоў.

Выдаецца „Отвали" на шыкарнай расейскай мове і „деревенском белорусском языке". Крыніцы існавання гэтага выдання, як яно само паведаміла ў апошнім нумары, высвятляе КДБ. Дадаецца таксама, што газета мае астранамічныя тыражы, выдаецца на грошы ЦРУ, украінскіх экстрамістаў УНА і УНСА і іншых, што, тым не менш, не перашкаджае ёй будзіць грамадскую свядомасць моладзі. Распаўсюджваецца *па дзяржаўных сілавых структурах*, а робяць „Отвали" рознага кшталту баявікі і падрыўнікі.

Сарказм і іронію газеты людзі разумеюць. Прыколы яе выклікаюць пэўныя эмоцыі. Газета прыколваецца з усяго – ад агульнаабраных да агульнанесвядомых. Ды часам як не засмяяцца з уласнага жыцця! Калі ж не смяяцца, то плакаць прыдзецца. А для тых, хто заплакаў, „Отвали" дае „карысныя" парады: як зрабіць з шырспажыву бомбу, гранату, міну, запал і г. д. Неабходныя кампаненты, падкрэсліваецца, ёсць у гаспадарчых крамах і на сметніках.

Цікава, ці будуць выкарыстаны гэтыя парады, і каму першаму „отвалят" народныя ўмельцы?

### У «Кодака» няма праблем

Вам патрэбна праявіць каляровую фотаплёнку, ці хутка зрабіць якасныя фотаздымкі? Няма праблем. 15 мая ў Івацэвічах адкрыты філіял Гродзенскай фірмы „Кодак-экспрэс". Дарэчы, кошт абслугоўвання намнога таннейшы, чым у другіх кропках, якія прапануюць у Івацэвічах фотапаслугі.

Так, калі вы жадаеце зрабіць фотаздымкі памерам 9x13 см, гэта абыдзецца ў 5 тысяч рублёў за адзінку, 10x15 – 6 тысяч, 13x18 – 10 тысяч, 15x21 – 12 тысяч рублёў.

Тут можна заказваць кадрыраванне, г. зн. павялічванне ці выбар любой дэталі з кадру. У шырокім асартыменце выбар фотаальбомаў, плёнак, фотарамак, апаратаў, батарэек.

Вас ветліва сустрэнуць прыёмшчыцы заказаў Алена Гарапека і Святлана Куратнік. Калі вы сёння здалі плёнку, здымкі будуць гатовыя праз дзень. Працуюць тут без выхадных, з 9 гадзін раніцы да 20 вечара, у нядзелю – з 9 да 14.00.

### Гнёзды в'юць наркаманы

**БЯРОЗА.** Па гораду ў нейкі момант папаўзлі чуткі, што ў Доме культуры райаграпрамтэхнікі знайшлі сабе гняздзечка наркаманы. Навіной зацікавіліся работнікі крымінальнага вышуку РАУС, і аднойчы яны сталі сведкамі „цікавага" інцыдэнту. Група маладых хлопцаў у адным з пакояў ДК сабралася нібы памузіцыраваць. Нехта сапраўды перабіраў струны гітары, а нехта *на прынесенай* з дому электраплітцы заварваў у жалезным кубку наркатычнае зелле, рыхтаваў шпрыцы. Главой злачыннай групы, як высветлілася, стаў жыхар Бярозы Алег С., былы студэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі, выключаны за непаспяховасць. Ён уцягнуў у наркапрытон некалькі непаўналетніх хлопцаў і настойліва перадаваў ім свае веды пра тое, як можна злавіць кайф. Не выйдзі работнікі міліцыі на злачынную групу, наркапрытон існаваў бы і працвітаў, папаўняўся б новымі ахвярамі. Гэта было б і таму, што адміністрацыя ДК зусім не звяртала ўвагі на „ціхіх" хлопцаў (яны бутэлек пасля сябе не пакідалі!) А тое, што ў пакоі адчуваўся характэрны пах наркатычнага зелля і ў урнах валяліся выкарыстаныя аднаразовыя шпрыцы – нікога не насцярожыла.

Праз некалькі дзён міліцыя зафіксавала і другі наркапрытон. Яго гаспадар, гаваркі жыхар Бярозы Пётр К., таксама ўцягнуў у злачыннае кайфаванне непаўналетніх юнакоў горада. Спачатку гаспадар у прысутнасці хлопцаў курыў самакруткі з марыхуанай і частаваў імі непаўналетніх. Гэтыя самакруткі юнцы раскурвалі разам з гаспадаром нават на балконе дома, які, дарэчы, знаходзіцца ў цэнтры Бярозы. Разлік Пятра К. быў дакладным: *паспрабаваўшы* наркотык адзін раз, малады чалавек адмовіцца ад яго ўжо не зможа. Больш таго, з сабою прывядзе і іншых.

І хто ведае, мо ў адзін з гэтых наркапрытонаў трапіла б і маладая жанчына, якая прыкладна ў гэты час лячылася ў інфекцыйным аддзяленні Белаазёрскай бальніцы. У Белаазёрск яна прыехала з Светлагорска, дзе, як паведамлялі многія сродкі масавай інфармацыі, адбылася ўспышка на ВІЧ-інфекцыю. Пры абследаванні і ў маладой госці з Светлагорска была выяўлена ВІЧ-інфекцыя. Экстранныя запыты-паведамленні ў Брэст і Мінск, тэсціраванне на навейшых прыборах паказала, што жанчына хворая на СНІД. Было дакладна ўстаноўлена і тое, што яна – наркаманка...

### Катастрофа самалёта

**БАРАНАВІЧЫ.** 19 мая ў 12 гадзін 48 хвілін адразу пасля ўзлёту ўпаў і разбіўся ваенны самалёт СУ-17. Трагедыя адбылася непадалёку ад чыгункі ў раёне ваеннага аэрадрома. За штурвалам самалёта быў падпалкоўнік, начальнік станцыі лётных выпрабаванняў авіярамонтнага завода Сяргей Уладзіміравіч Паграбан, 1950 года нараджэння. Лётчык загінуў. Іншых ахвяр і разбурэнняў няма.

Прычыны катастрофы расследуе спецыяльная камісія, якую ўзначальвае адзін з намеснікаў міністра абароны. Паводле папярэдняй інфармацыі, самалёт СУ-17 выпрабоўвалі пасля рамонту. Дарэчы, згодна з Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, усе баявыя машыны гэтай мадыфікацыі павінны былі быць зняты з узбраення.

У мінулым годзе, таксама ў другой палове мая, разбіўся пад Баранавічамі ваенны знішчальнік СУ-27П, пілатуемы падпалкоўнікам 37-гадовым Уладзімірам Карватам.

● *ПА-СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЁМ*

## Дзень за днём

#### ПАЛІГОН ЗАХОДНІХ ТЭХНАЛОГІЙ

**КОБРЫН.** На мінулым тыдні здадзены ў эксплуатацыю новы мясакамбінат, пабудаваны па еўрапейскіх стандартах. Тэхналагічнае абсталяванне, выраблена з нержавеючых матэрыялаў, набыта ў Германіі. За змену камбінат будзе перапрацоўваць *10 тон свініны і ялавічыны. Бізнес-планам* прадугледжан таксама выраб прадукцыі з каніны – гэта прыцэл на заходні рынак, у прыватнасці, на Італію.

Мяркуецца, што сучасны мясакамбінат стане своеасаблівым палігонам па навучанню спецыялістаў *аналагічных прадпрыемстваў* вобласці новым тэхналогіям перапрацоўкі сыравіны.

#### ПЯЧНІК – ПРАФЕСІЯ ПАТРЭБНАЯ

**ІВАНАВА.** Добры пячнік у вёсцы ніколі не бывае „ў прастоі". Бо кожны гаспадар імкнецца займець у доме надзейна складзеную грубку ці рускую печ. Толькі мала дзе вучаць гэтаму патрэбнаму і карыснаму рамяству. Яго прафесійныя тонкасці звычайна перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

У Іванаўскім раёне рашылі паправіць справы з няхваткай *печнікоў. Заняўся гэтым раённае* ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання. Пры ім ёсць вучэбны цэнтр, дзе рыхтуюць муляраў-печнікоў. *Цяпер у групе* вучыцца 17 чалавек. Усе *яны – былыя* беспрацоўныя, на вучобу накіраваны раённым цэнтрам занятасці.

#### ХТО СКАЗАЎ, ШТО МУЗЕІ ПАМІРАЮЦЬ?

**ПРУЖАНЫ.** Музейнаму комплексу саўгаса-тэхнікума, які з 1979 года носіць ганаровае званне „Народны", належаць 4 пакоі агульнай плошчай больш за 200 кв. м. Энтузіястам удалося сабраць і размясціць тысячы рэдкіх экспанатаў: рэчы побыту, прылады працы, ваенныя рэгаліі, дакументы, фотаздымкі, *старадаўнія кнігі*. Ёсць даведачны аддзел з навуковымі пашпартамі і картатэкай. Экспазіцыя пачынаецца экспанатамі да нашай эры і заканчваецца *сённяшнім днём. Дзеля папаўнення* фонду музея навучэнцы падчас летніх канікулаў вядуць археалагічныя раскопкі, наладжваюць этнаграфічныя *экспедыцыі і паходы па месцах славы.*

Музей працягвае развівацца, прыадчыняе ўсё новыя пласты гісторыі роднага краю.

#### У ДОБРЫ ШЛЯХ, „ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ"!

**СЛОНІМ. Напрыканцы красавіка ў мясцовай друкарні надрукаваны першы нумар незалежнага грамадска-палітычнага штотыднёвіка „Газета Слонімская". У рэдакцыйным артыкуле чытачам паведамляецца, што супрацоўнікі новага выдання будуць імкнуцца аднавіць традыцыі аднайменнай газеты, якая выходзіла ў Слоніме 58 гадоў таму.**

**„Газета Слонімская" выходзіць на беларускай і рускай мовах. Чытач знаходзіць на яе старонках аператыўную інфармацыю пра жыццё горада і раёна, звесткі пра славутую гісторыю Слонімшчыны, матэрыялы пра жыццё і дзейнасць слонімцаў, якія воляй лёсу апынуліся за мяжой.**

#### ГАРЭЛКА ПАДПОЛЬНАГА РАЗЛІВУ

**ПІНСК. Падпольны цэх па вытворчасці гарэлкі „Руская" выкрылі супрацоўнікі мясцовай міліцыі. Знаходзіўся ён непадалёку ад калгаснага рынку. Міліцыянеры трапілі туды ў момант, калі іх ніхто не чакаў. Аператыўнікі ўбачылі ўсе атрыбуты поўнамаштабнай алкагольнай вытворчасці: бутэлькі са спіртам, коркі з штампамі Клімавіцкага і Мінскага заводаў, закатачныя машынкі. І, зразумела, гатовая прадукцыя – 191 паўлітровыя бутэлькі, напоўненыя сумессю спірту і сырой вады з-пад крана.**

**Вырабам падпольнай гарэлкі займаліся дзве жанчыны, як потым высветлілася, грамадзянкі Украіны.**

**(Падборка падрыхтавана па матэрыялах абласнога і рэспубліканскага друку).**

● СЛУЖБА 01

# ДЗЕЦІ НАРАБІЛІ БЯДЫ

Пажары па віне малалетніх дзяцей часцей за ўсё ўзнікаюць у цёплыя, сонечныя дні. На Вялікдзень, калі нарэшце ўсталявалася сонечнае надвор'е і адчуваўся сапраўдны прыход вясны, малыя свавольнікі апынуліся на вуліцы.

26 красавіка па віне дзяцей разгарэлася ажно два пажары. Пасля 15 гадзінаў загарэўся стажок саломы ў гаспадарцы жыхаркі в. Міронім Яўгеніі Сцяпанаўны Попінай. Падвечар таго ж дня шуганула полымя на падворку жыхара в. Любішчыцы Мікалая Васільевіча Молаша. Тут у попел і дым ператварыўся стажок сена вагой у 1 тону. Прычына і гэтага пажару крыецца ў свавольстве з агнём малалетніх дзяцей: Сашы Макеевай 1991 г.н., якая жыве з бабуляй у гэтай жа вёсцы, і чатырохгадовага Ігара Байбака, які з бацькамі прыехаў на свята да сваякоў з Яглевічаў.

Але ці сапраўды толькі малыя дзеці-свавольнікі вінаватыя ў гэтых падпалах? Хутчэй за ўсё асноўная віна ў гэткіх здарэннях кладзецца на бацькоў, якія ніяк не кантралююць дзеянні і паводзіны сваіх дзяцей, хоць тыя ў сваю чаргу сутыкаюцца ўшчыльную з рызыкоўнымі і небяспечнымі абставінамі. Моцна рызыкуюць і самі бацькі, пакідаючы сваіх дзяцей без нагляду. Вінаватыя яны яшчэ і ў тым, што ўхіляюцца ад сваіх непасрэдных абавязкаў вучыць дзяцей змалку правільнаму, бяспечнаму абыходжанню з агнём, што не тлумачаць малым аб той бядзе, якую нясе з сабой людзям агонь пры няўмелым, няправільным карыстанні.

Аб праўдзівасці гэтых назіранняў яскрава сведчаць іншыя выпадкі вогненных здарэнняў. 27 красавіка ў сярэдзіне цёплага сонечнага дня ўзнік пажар у райцэнтры. Гарэў драўляны хлеў на падворку Марыі Цімафеееўны Анфілец. Агонь моцна пашкодзіў збудаванне. А віноўнікі здарэння зноў-такі малыя дзеці. На гэты раз у ролі падпальшчыкаў аказаліся два Сярожы: 8-гадовы Кунда і 5-гадовы Пашкевіч. Праз дзень да запалак пацягнулася рука 4-гадовай Люды Лазарчук з Дабромысля. Вынік – яшчэ адзін пажар: у гаспадарцы бацькі дзяўчынкі Аляксандра Уладзіміравіча не стала стажка сена.

З гэтых сумных прыкладаў выразна бачна, што дзяцей ледзь не з калыскі трэба вучыць правільнаму, умеламу абыходжанню з самымі рознымі крыніцамі агню. Займацца гэтым у першую чаргу павінны бацькі, тым болей, калі заўважаюць у свайго сына ці дачкі небяспечную цікавасць да агню. Даволі часта падпальшчыкамі з'яўляюцца тыя дзеці, якія па нейкіх прычынах не наведваюць дзіцячыя садкі, а цэлымі днямі аддадзены самі сабе. Бацькі ні ў якім разе не павінны шкадаваць часу на выхаванне сваіх дзяцей у мэтах супрацьпажарнай бяспекі. І ніякіх апраўданняў тут не можа быць.

**В. МОЛАШ,**
**ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.**

● СПОРТ

# Табло турніраў

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА.** Абласная спартакіяда школьнікаў па лёгкай атлетыцы завяршылася ў Брэсце. Прабіцца ў прызёры змаглі зборная Баранавічаў (другое месца сярод гарадоў) і прадстаўнікі Бярозаўшчыны (трэцяе месца сярод раёнаў).

Івацэвіцкаму раёну ў агульнакамандным заліку прысуджана дзевятае месца. Аднак у асабістым заліку асобныя лёгкаатлеты выступілі ўдала. Чэмпіёнам вобласці па штурханні ядра стаў вучань Гошчаўскай СШ Андрэй Кавальчук. Ён жа быў пятым па кіданні дыска. У спартыўнай хадзьбе на 3 км пераможцай стала выхаванка Целяханскай школы-інтэрната Наталля Кісева. Добрыя вынікі на спаборніцтвах паказалі вучні Целяханскай СШ Васіль Багдановіч і Сяргей Капыціч (бег на 3.000 м і бег з перашкодамі на 2.000 м), вучань Быценскай СШ Сяргей Падсадны (бег на 100 м і скачкі ў даўжыню), а таксама лёгкаатлеты з райцэнтра Ірына Уласавец, Кацярына Грынчык (СШ № 3), Аліна Радзюк (СШ № 1) і Сяргей Якімовіч (СШ № 2).

**КУЛЯВАЯ СТРАЛЬБА.** Гонар Брэсцкай вобласці на рэспубліканскай спартакіядзе вучнёўскай моладзі абаранялі стралкі Белаазёрскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Яны занялі другое месца, прапусціўшы наперад сапернікаў з Мінска.

У складзе каманды выступалі Кацярына Галабурда, Аляксандр Дзямідовіч, Наталля Мелех і Віталь Валошчык. У практыкаваннях МП-5 і ПП-2 Кацярына Галабурда паказала трэці вынік, а Аляксандр Дзямідовіч у практыкаванні ПП-2 заняў першае месца і другое – у практыкаванні МП-2.

**ПЛАВАННЕ.** Баранавічы прымалі ўдзельнікаў абласных спаборніцтваў па плаванню ў праграме юнацкіх гульняў Брэсцкай вобласці. У „родных сценах" поспех спадарожнічаў тамтэйшым плыўцам Ганне Шчэрбе (100 м, вольны стыль) і Тамары Амбражко (200 м на спіне).

**ФУТБОЛ.** Напружанай і поўнай спартыўнай злосці атрымалася барацьба школьнікаў Івацэвіцкага раёна на спаборніцтвах па футболу. Прызавыя месцы размеркаваліся так: першае – СШ № 3 г. Івацэвічы (трэнер А. М. Бахур), другое – Хадакоўская (трэнер А. І. Трында) і трэцяе – Воленская СШ (трэнер А. Я. Сярко).

**І. ЛАЎРОЎСКІ.**

# МІКОЛУ КУПРЭЕВУ – 60

*Чалавек чалавекам, гады гадамі, але ад іх нікуды не дзенешся.*

*Шэсць дзесяткаў – і многа, і мала. Многа, бо шмат што ўбачана, перажыта, перадумана, зроблена. Мала, бо наперадзе столькі непачатага, гарызонты задум і прадчуванняў, калі здаецца, што ўсё яшчэ наперадзе і што самая галоўная кніга – наперадзе.*

*Творчая спадчына Міколы Купрэева невялікая – два зборнікі вершаў, нізкі вершаў, апублікаваных у рэспубліканскім перыядычным друку, аповесць „Імгненне светлае". Усё гэта атрымала высокую ацэнку крытыкаў і шырокае прызнанне чытачоў. Апрача высокага майстэрства, ёсць у гэтых кнігах асаблівa роднае, блізкае сэрцу кожнага шчырага беларуса.*

*Літаратурная грамадскасць шырока будзе адзначаць юбілей М. Купрэева. Яму і яго творчасці прысвяцяць майскія нумары літаратурна-грамадскія часопісы „Маладосць", „Крыніца" і іншыя, штотыднёвік „Літаратура і мастацтва". Асноўныя ўрачыстасці пройдуць 24–25 мая на Пружаншчыне, у адной з вёсак якой цяпер жыве пісьменнік.*

*З юбілеем, Мікалай Сымонавіч! Шчыра жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, новых творчых здзяйсненняў на карысць роднай літаратуры, нашай Бацькаўшчыны!*

*РЭДАКЦЫЯ „ГАЗЕТЫ ДЛЯ ВАС".*

## Вершы розных гадоў

*БРАГІН, ЛЕТАМ 86-га*

*Раздушаны на брагінскім*
*асфальце баравік,*
*спрасаваны шынамі,*
*падэшвамі. Пад вечар*
*абшарпаны ля яго спыніўся*
*чаравік*
*мясцовага гісторыка.*
*Аб нечым*
*думаў. Адышоў. Вярнуўся.*
*Наступіў.*
*Тое, што не дарабілі людзі,*
*абцасамі, абцасамі, абцасамі*
*рабіў – дабіў! –*
*баравікоў у Брагіне не будзе!*
*...Дома даўняму каханню*
*пазваніў:*
*„Што ў сталіцы сніцца,*
*дарагая?"...*
*І па сцяне ён кулаком не біў:*
*на тое і сцяна, яна – глухая.*
*Ноччу на былую Брагінку*
*пайшоў.*
*Месяц плыў зламанаю*
*падковай.*
*Чуў Прыпяць ён збалелаю*
*душой:*
*стаяў над ёю пах –*
*ці прах? – баравіковы.*

*РЭЛІКТАВЫ БЕЛАРУС*

*Сеў дзед-беларус*
*пры дарозе,*
*прыхінуўся спіной*
*да бярозы.*

*Каса на пракосе дрэмле,*
*Думае торба на дрэве.*

*Пахне бензінам атава.*
*Налева – Масква*
*і направа – Варшава.*

*Ляцяць і ляцяць машыны.*
*мігцяць і дымяцца шыны.*

*Дзед торбу з бярозы знімае,*
*бабін рушнік рассцілае*

*на карэнні, на чорных*
*мурашках –*
*хлеб, сала, цыбуля і пляшка.*

*Чарку панюхаў,*
*скарынку панюхаў.*
*Палажыў далоню пад вуха,*

*ціха заснуў пад бярозай*
*пры маскоўска-варшаўскай*
*дарозе.*

*Спіць на радзімых травах,*
*на карэнні, на пальцах*
*каравых.*
*Прачнуўся – ні торбы,*
*ні дрэва.*
*Ціха пайшоў ён дахаты*
*ў Крэва.*

*Азірнуўся – гарыць атава*
*ля дарогі Масква – Варшава.*

*ЛЯЦЯЦЬ ЖУРАЎЛІ*

*Жураўлі журлівыя мае –*
*праплывае новае расстанне.*
*Зноў над Шчарай*
*шчыры крык растане, –*
*ў гэтым свеце вечна не стае...*

*Няўжо я зноў калі вярнуся –*
*не птушкай –*
*хоць крылом яе*
*пад вокны Беларусі?..*

*...Ціхі вечар, помню, настае.*
*Бяроза шэпча ў хату праз*
*акно.*
*Том Купалы, бульба на стале.*
*Нясе цётка Ганна малако...*

*ВЕЧНАЕ*

*Сівенькая маці блукае*
*сотні гадоў ля ракі,*
*сына Івана гукае*
*на ўсе чатыры бакі.*
*З боку Расіі – ціха,*
*з Нямеччыны – немата,*
*з Украіны – ні слыху,*
*з Магілёва – вада.*
*Над галавою – аблокі,*
*пад нагамі – пясок...*
*Зноў адышла ў глыбокі*
*пад крыжамі лясок.*



● РЫНОЧНАЯ ПЛОЩАДЬ

# ЧТО ПОЧЁМ?

**Цены на рынках нашего региона в прошлые выходные (в тысячах рублей за один килограмм) были следующие:**

| | Ивацевичи | Барановичи | Береза |
|---|---|---|---|
| Свинина | 48–55 | 55–75 | 70 |
| Сало солёное | 45–50 | 43–46 | 60 |
| Сельдь пр. посола | 39 | 33–35 | 37–40 |
| Масло растительное | 28 | 28 | 30 |
| Сахар | 14 | 15 | 13–15 |
| Гречка | 23 | 20–21 | 20 |
| Макаронные изделия | 17–20 | 17–20 | 23 |
| Яйца (1 десяток) | 20–22 | 18–22 | 22–23 |
| Молоко (3 л) | 13–15 | 15–16 | 12–14 |
| Творог | 16 | 18 | 17 |
| Масло крестьянское | 60 | 69–72 | 50 |
| Огурцы свежие | 28–32 | 35–40 | 30–35 |
| Помидоры | 50 | 55 | 50–54 |
| Редис (1 пучок) | 5 | 6–9 | 5–8 |
| Яблоки | 15 | 13–15 | 12–15 |
| Апельсины | 30 | 29 | 28 |
| Бананы | 31 | 31 | 31 |
| Сельдь мороженая | – | 25 | – |



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 22 мая ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас".

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры передрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Тыраж 530 экз.
Заказ № 1231.